# КРЫВІНКА

ВЕРАСЕНЬ
№ 14 (186)
2016 год

ІНФАРМАЦЫЙНА-КУЛЬТУРНАЯ ГАЗЕТА БЕШАНКОВІЦКАГА РАЁНА



ВЫБАРЧАЯ КАМПАНІЯ – 2016

## ТАКІЯ РОЗНЫЯ ЛІЧБЫ

**На Чарняхоўскім участку № 4 у Бешанковічах, як і паўсюль па Беларусі, з 6-га па 10-га верасня праводзілася датэрміновае галасаванне. А ў асноўны дзень выбараў было галасаванне па месцу знаходжання выбаршчыкаў і галасаванне на ўчастку.**

У датэрміновым галасаванні прыняло ўдзел аж 740 чалавек. З іх
– 645 прагаласавала за Ігара Мартынава,
– 48 за Ягора Левачова,
– 17 супраць усіх
– 15 несапраўдных бюлетэняў,
– 12 за Пятра Іванова,
– 3 за Іну Прохараву.

У асноўны дзень галасавала толькі 318 чалавек. З іх
– 165 за Ягора Левачова,
– 69 за Ігара Мартынава,
– 45 супраць усіх,
– 16 за Пятра Іванова,
– 12 за Іну Прохараву,
– 11 бюлетэняў былі несапраўднымі.

Па месцу знаходжання прагаласавалі 54 чалавекі. З іх
– 36 за Ягора Левачова,
– 12 за Ігара Мартынава,
– 5 за Іну Прохараву,
– 1 за Пятра Іванова.

Ці ёсць пытанні наконт датэрміновага галасавання?

У дзень выбараў на выбарчым участку праводзілася назіранне даверанай асобай Ягора Левачова.

**М.Васільеў**

НАША ЖЫЦЦЁ

## АПАВЯШЧАЛЬНІКІ – АБАВЯЗКОВЫЯ

**Устаноўка ў кватэрах апавяшчальнікаў па выяўленні чаднага газу (CO) стане абавязковай. Пра гэта паведаміў сёння на прэс-канферэнцыі галоўны інжынер сектара тэхінспекцыі ўпраўлення сістэм газазабеспячэння ДВА «Белпалівагаз» Ігар Петрык.**

Да канца 2016 года апавяшчальнікі па выяўленні CO стануць абавязковымі ў дамах, дзе выкарыстоўваецца газавае абсталяванне. «Згодна з пратаколам Камісіі па надзвычайных сітуацыях пры Савеце Міністраў распрацаваны комплексны план, створана рабочая група з прадстаўнікоў міністэрстваў энергетыкі, ЖКГ, надзвычайных сітуацый, ДВА «Белпалівагаз», Дзяржпрамнагляду. Рабочая група разглядае ў якасці аднаго з новаўвядзенняў унясенне ў правілы карыстання газам у побыце ўстаноўку сігналізатараў, або апавяшчальнікаў чаднага газу, у тых жылых памяшканнях, дзе выкарыстоўваецца газавае абсталяванне з цэнтралізаваным адводам прадуктаў згарання», — растлумачыў Ігар Петрык. Змяненні павінны быць унесеныя да 31 снежня.

Галоўны інжынер УП «Мінаблгаз» Сяргей Курашэвіч дадаў, што фактычна гэта азначае абавязковую ўстаноўку ў кватэрах апавяшчальнікаў па выяўленні CO. Цяпер устаноўка апавяшчальнікаў ажыццяўляецца па жаданні ўласніка.

Апавяшчальнік пры фіксацыі CO выдае гукавы або светлавы сігнал. Гэта не тое ж самае, што пажарны апавяшчальнік. Пажарны апавяшчальнік фіксуе газы гарэння, а апавяшчальнік чаднага газу — CO. Неабходнасць устанаўліваць такія апавяшчальнікі з'явілася пасля трагедыі ў Барысаве і іншых інцыдэнтаў, калі людзі масава атручваліся чадным газам.

Сігналізатар таксама падае гукавы або светлавы сігнал, але ў адрозненне ад апавяшчальніка можа перадаваць сігнал на дыспетчарскі пункт або на адсечку для перакрыцця газу ў памяшканні.

Сігналізатар прадугледжваецца ўстанаўліваць толькі на камунальна-бытавых аб'ектах і аб'ектах невытворчага характару. Апавяшчальнік чаднага газу беларускай вытворчасці каштуе Br22. Ён будзе набывацца і ўстанаўлівацца самімі ўласнікамі.

**БелТА**

****

*Ты прызнач мне спатканне*
*дзе-небудзь на краі зямлі –*
*у пустыні якой,*
*ці між льдоў*
*у палярным убранні.*
*Так далёка прызнач,*
*каб з надзеяй цябе прытуліць,*
*я б ішоў цэлы век ці паўвека*
*на тое спатканне.*

*А сама не ідзі нікуды –*
*ноч ужо на дварэ.*
*І калі павядзе мяне шлях*
*у жаданую Мекку,*
*ты з палёгкай ўздыхні,*
*хоць падманваць, напэўна,*
*і грэх, –*
*ты падорыш надзею мне*
*на цэлы век ці паўвека.*

*Буду ўдзячны табе я за ўсё –*
*не турбуйся дарма.*
*Буду йсці да цябе і не знаць,*
*што мне зорка не свеціць.*
*Гэта страшна, калі*
*і маленькага шанцу няма*
*сваё шчасце абняць*
*на вялізнай халоднай планеце.*

***Г.Станкевіч***



ПАЛІТЫЧНЫ ПРЫСУД

## АШТРАФАВАНЫЯ ЗА ПЕСНІ

**27-га ліпеня Тацяна Севярынец, Алена Шабуня і Георгі Станкевіч ладзілі супольны пікет па зборы подпісаў, падчас якога заадно віншавалі мінакоў з гадавінай прыняцця Дэкларацыі аб дзяржаўным сувэрэнітэце Беларусі. І прасьпявалі гімн «Магутны Божа», а «бард Свабоды» Георгі Станкевіч выканаў і ўласную песьню.**

«Як асобы, якія прэтэндавалі на ўдзел у выбарах у якасьці кандыдатаў, мы мелі права праводзіць пікеты па зборы подпісаў. Дзеля гэтага ня трэба браць дазвол у мясцовых органаў улады. І мы вырашылі зьбіраць подпісы супольна. Але, сабраўшыся на вуліцы Леніна на баку гандлёвага цэнтру „Марка-сіці", мы зразумелі, што размаўляць зь мінакамі нам перашкаджае гук рэклямныхролікаў, якія трансьлююцца побач на вялікім экране. І мы дамовіліся, каб перайсьці на другі бок вуліцы. Але там мінакоў было значна менш. Не ўдалося прыцягнуць увагу людзей нават тым, што мы пачалі сьпяваць. Адзінае, чаго мы дамагліся, — гэта пільнай увагі з боку міліцыі. Нас абвінавацілі ў тым, што мы праводзім пікет, не санкцыянаваны Кастрычніцкай раённай адміністрацыяй», — казала суду Тацяна Севярынец.

Аднак выкліканы ў суд у якасьці сьведкі прадстаўнік Кастрычніцкага РАУС Сяргей Вяракса заявіў, што ў пікетоўцаў былі іншыя мэты — што празь сьпяваньне гімна «Магутны Божа» і песьні «Сьцяг» яны «выражалі свае палітычныя меркаваньні».

Да слова, згаданых падзеяў спадар Вяракса ня бачыў — ён толькі складаў пратакол на падставе рапарту палкоўніка Ігара Скарыновіча, намесьніка начальніка міліцыі грамадзкай бясьпекі Віцебскага аблвыканкаму.

Аднак судзьдзя Царыкаў адмовіўся выклікаць Ігара Скарыновіча ў суд у якасьці сьведкі. На падставе відэазапісу, зробленага міліцэйскім відэаапэратарам, судзьдзя зрабіў высновы, што падчас сьпеваў актывісты не зьбіралі подпісаў за сваё вылучэньне на кандыдатаў. Адпаведна, яны нібыта парушылі адміністрацыйнае заканадаўства, не парушаючы заканадаўства выбарчага.

26-га верасня ўсім тром удзельнікам пікету па зборы подпісаў прысуджаны штрафы па 5 базавых велічынь — паводле адміністрацыйнага артыкула 23.34 (парушэньне парадку арганізацыі і правядзеньня масавых вулічных акцыяў).

**Радыё Свабода**

НАША ЗДАРОЎЕ

## У РАЁНЕ – 19 ВІЧ-ІНФЕКЦЫЯВАНЫХ

**- Нават калі ў чалавека ёсць ВІЧ, гэта не значыць, што тэрмін яго жыцця "адмераны", - падкрэсліла Ірына Родная, памочнік урача-эпідэміёлага раённага Цэнтра гігіены і эпідэміялогіі.**

- ВІЧ-інфекцыя - гэта сур'ёзнае і патэнцыйна небяспечнае для жыцця хранічнае захворванне, але з ім можна жыць многія гады, і толькі ад самога чалавека залежыць, наколькі паўнавартасным і насычаным будзе яго жыццё. А ўсім землякам я б рэкамендавала больш педантычна ставіцца да свайго ладу жыцця, адмовіцца ад шкодных звычак, берагчы здароўе і захоўваць вернасць свайму партнёру.

У Бешанковіцкім раёне зафіксавана 19 ВІЧ-інфекцыяваных. На Віцебшчыне сёння налічваецца больш за 200 чалавек, якія заразіліся вірусам імунадэфіцыту чалавека ў выніку ўнутрывеннага ўвядзення наркатычных сродкаў. Усяго ў вобласці пражываюць каля тысячы ВІЧ-станоўчых людзей.

Вось тыпічная гісторыя 38-гадовага мужчыны:

"Калісьці ў мяне было ўсё: вучоба, верныя сябры і надзейны тыл. Але ўсё перакрэсліла турма, у якую двойчы трапляў за бойкі. Пасля вызвалення з'ехаў у Маскву. І, мабыць, нешта ўва мне зламалася, таму што я грунтоўна падсеў на гераін. Спярша толькі ўдзельнічаў, а потым ... панеслася. Распачатыя праблемы са здароўем спісваў выключна на наркотыкі. Неяк жыццё закінула мяне ў Піцер, і ўжо тут я адчуў, што з арганізмам штосьці не так. Мучыла боль у печані , пастаянна адчуваў слабасць, патлівасць. Здаў аналізы - і як абухом па галаве: ВІЧ ...

Узрушэнне было страшнае. Чаму я? За што? Але больш за ўсё ў той момант мучыла думка пра жонку і дзіця. Памятаю, прыйшоў дадому, кажу жонцы пра свой статус, а яна, мабыць, не разумеючы, што да чаго, пачала мяне супакойваць, казала, што лекары напэўна памыліліся і трэба здаць кроў яшчэ раз. Але паўторны аналіз пацвердзіў ВІЧ. Сын, дзякуй Богу, аказаўся здаровы. У той момант яму было ўсяго тры гады. Я, далібог, не ведаю, як і навошта жыць далей. Думка пра тое, што я заразіў блізкага чалавека, не дае мне спакою да гэтага часу. А тады ў галаву лезлі благія думкі. Выратавала жонка, якая за ўвесь час ні разу не папракнула мяне ў тым, што здарылася. Уяўляеце - ні разу! За што ёй, вядома, нізкі паклон."

**Па матэрыялах "Зары"**

УВАГА!

# АСЦЯРОЖНА, ШАЛЕНСТВА!

**Сёлета 13 чалавек у Бешанковічах і 7 у вёсках Бешанковіцкага раёна пакусалі жывёлы. Сямёра з іх укусілі каты, 13 – сабакі, аднаго – ліса. Сярод пакусаных – шасцёра дзетак да 14 гадоў.**

У сабакі з вёскі Мартынава шаленства пацвердзілася лабараторна.

Гэта адно з самых небяспечных інфекцыйных захворванняў жывёл і чалавека. Хворы чалавек, цалкам захоўваючы свядомасць, цяжка пакутуе і заўсёды памірае.

На шаленства часцей хварэюць лісіцы, янотападобныя сабакі, ваўкі, барсукі, сабакі, кошкі і іншыя цеплакроўныя жывёлы.

Чалавек заражаецца:

- Пры ўкусе, драпінах, абслюньванні хворай жывёлай. Найбольш небяспечныя ўкусы для галавы, шыі і кісцяў рук;
- Пры трапленні сліны на слізістыя абалонкі вачэй, носа, рота, пашкоджаныя скурныя пакровы;
- Пры зняцці шкуры, пры раздзелцы тушы хворай жывёлы;
-Заразіцца можна і ад вонкава здаровай жывёлы, так як вірус шаленства вылучаецца са слінай жывёльнага за 10 дзён да з'яўлення першых клінічных прыкмет захворвання.

Хворая хатняя або сельскагаспадарчая жывёла не слухае гаспадара, неспакойная, палахлівая ці, наадварот, агрэсіўная, можа ўцячы з хаты і накінуцца на людзей. У сабакі адвісае хвост і ніжняя сківіца, багата вылучаецца сліны, з'яўляецца хісткая хада. Дзікія жывёлы губляюць асцярожнасць і выходзяць у населеныя пункты.

МЕРЫ ПРАФІЛАКТЫКІ:

- Прышчэпка супраць шаленства хатніх жывёл і сабак, якую робяць у гарадскіх і раённых ветстанцыях бясплатна. З мэтай недапушчэння магчымых ускладненняў за 2 тыдні да вакцынацыі рэкамендуецца правесці дэгельмінтызацыю;
- Выгул хатніх сабак праводзіце ва ўсталяваных месцах, у нашыйніку з нумарным знакам, у намордніку і на ланцугу; - Калі вашага гадаванца пакусала дзікая жывёла, абавязкова звярніцеся да ветэрынарнага ўрача;
- Не дапушчайце зносін хатніх і безнаглядных жывёл;
- Ня варта забіваць хатнюю жывёлу, якая пакусала ці падрапала якога-небудзь чалавека, за ім павінна быць ўстаноўлена дзесяцідзённае ветэрынарнае назіранне;
- Пазбягайце кантактаў з дзікімі жывёламі, якія трапілі ў населеныя пункты, аб з'яўленні трупаў жывёл паведаміце ў ветслужбы; - Пры выяўленні трупаў жывёл не чапайце іх, не здымайце шкуру, паведаміце ў ветслужбы.

Пры ўсіх выпадках укусаў жывёламі неабходна:

- Прамыць рану вадой з мылам ў глыбіню раны;
- Апрацаваць яе перакісам вадароду, 70% этылавым спіртам або настойкай ёду;
- Абавязкова звярнуцца па медыцынскую дапамогу ў траўмапункт альбо паліклініку.

Памятаеце! Вакцынацыя - адзіны сродак выратавання людзей ад захворвання на шаленства! Чым раней пачаты прышчэпкі, тым надзейней яны засцерагаюць ад захворвання на шаленства.

**Сяргей Касцюшаў**
**галоўны ветэрынарны ўрач раёна,**
**Ніна Байдакова**
**памочнік урача-паразітолага РЦГЭ**

БЕЛАРУСКАЯ РЭЧАІСНАСЦЬ

# ЯК ДАБІВАЮЦЬ ПРАФЭСІЯНАЛАЎ

**12 студзеня 2011 году Рэспубліканская камісія па тэлебачаньні і радыёвяшчаньні, кіраваньне якой сумяшчаў з пасадай міністра інфармацыі Алег Праляскоўскі, загадала калектыву «Аўтарадыё» згарнуць вяшчаньне. Фармальнай прычынай для закрыцьця хвалі 105,1 стаў «распаўсюд матэрыялаў, якія ўтрымліваюць публічныя заклікі да экстрэмісцкай дзейнасьці». Менавіта так былі ацэненыя выступы кандыдатаў у прэзыдэнты Уладзімера Някляева і Андрэя Саньнікава. У прыватнасьці, лідэр «Эўрапейскай Беларусі» заклікаў выбарцаў вырашаць лёс краіны не на кухні, а на плошчы. «Настаў час памяняць лысую гуму», — сказаў палітык.**

Разьвітаньне зь Юрыем Базанам адбылося напрыканцы верасня 2016 года. Яму было 54 гады, а памёр ён, паводле папярэдніх зьвестак, ад інсульту.

Апошнія 5 гадоў Юры Базан вымушана заставаўся па-за справамі. У адзін момант ён страціў усё — бізнэс, калектыў, любімую справу. Моцна перажываў, прымаў блізка да сэрца, шмат курыў.

«Для мяне працы ў Менску няма. Ісьці мне, чалавеку, які два дзясяткі гадоў рабіў „Аўтарадыё", у нейкія прыслужнікі — гэта значыць працаваць на сыстэму, якая, ласна кажучы, усё і растаптала, — казаў ён падчас нашай апошняй гутаркі. — Гэта для мяне ня выбар. Па-другое, 20 гадоў пры такой справе — гэта суцэльныя нэрвы. А мне ўжо за „палцініньнік": то галава баліць, то яшчэ нешта, трэба крыху супакоіцца».

Супакоіцца не ўдалося — неспрактыкавана выйшла — нечакана: не ўдалося — неспраўдзілівасьць забівала.

Юры Базан аказаўся адзіным у беларускай мэдыйнай прасторы, на каго «павесілі» калектыўную адказнасьць за «няправільнае» асьвятленьне кампаніі выбараў прэзыдэнта ў сьнежні 2010 году.

Як толькі скончыліся навагодне-калядныя сьвяты, у дзьверы «Аўтарадыё» пагрукаліся нязваныя госьці зь Беларускай дзяржаўнай інспэкцыі электрасувязі. З парога загадалі выключыць перадатчык. Што адметна, не з судовым рашэньнем, а на падставе аднаасобнага меркаваньня чыноўніка Праляскоўскага. Ніякія аргумэнты на рэвізораў ня ўзьдзейнічалі, знаёмыя пазыўныя ў FM-эфіры змоўклі. Памяшканьне ў будынку заводскай адміністрацыі на вуліцы Прытыцкага ў Менску празь нейкі час апячаталі. Адзіная прыватная радыёстанцыя ў Беларусі, якая вяшчала не зь дзяржаўнага, а з уласнага перадатчыка, была пасьпяхова нэўтралізаваная.

У Алега Хаменкі, музыкі і вядучага праграмы «Брама існасьці», у эфіры «Аўтарадыё» выйшла больш за сто аўтарскіх перадач. Ён мяркуе, што сапраўднай падставай для ліквідацыі станцыі была занадта незалежная пазыцыя:

«Галоўнае ў тым, што гэта была самая незалежная радыёстанцыя ў краіне. Проста нагадаю, чаму асабіста я ганаруся „Аўтарадыё". Калі адбывалася так званая прафіляктыка, не працавала ніводная FM-станцыя, акрамя нашай. І гэта ведалі ня толькі мы, зразумела, гэта ведалі і іншыя. Не выключаю, што „Аўтарадыё" было зачынена нават не па тых фармальных прычынах, якія былі агучаныя. Насамрэч яно было абсалютна незалежнае і па камутацыі, і па абсталяваньні, і па шэрагу іншых парамэтраў.

Некаторыя калегі дапускаюць, што ліквідацыя «Аўтарадыё» стала асабістай помстай Алега Праляскоўскага свайму апанэнту. Падчас нарадаў у Міністэрстве інфармацыі Юры Базан жорстка і нават на мяжы фолу супрацьстаяў кіраўніку ведамства, калі эфір фактычна абклалі цэнзурай — у выпусках навінаў можна было спасылацца толькі на афіцыйныя агенцтвы, забаранялася казаць пра палітычныя акцыі дый увогуле ўслых згадваць апазыцыю. А ролік дэмакратычных кандыдатаў перад прэзыдэнцкімі выбарамі 2010 году стаў апошняй кропляй — нязгоднаму трэба было паказаць ягонае месца.

Бяз працы застаўся ня толькі нязручны рэдактар занадта незалежнага рэсурсу, але і высокакваліфікаваны калектыў аднадумцаў. Да таго часу гэта была рэдкая пляцоўка, дзе гучалі нефарматныя музыкі з «чорнага сьпісу» — Юры Базан першым з калегаў прыйшоў да разуменьня, што ў беларускім эфіры павінны гучаць беларускія аўтары і выканаўцы. Яшчэ да міністэрскіх інструкцыяў спачатку пра 50%, а потым і 75% беларускай прысутнасьці ў эфіры па драбочку сабраная музычная калекцыя «Аўтарадыё» была здольная выканаць прадпісаньне на 100%.

Увесь 2011 год доўжыліся спробы апратэставаць забойчае рашэньне Рэспубліканскай камісіі па тэлебачаньні і радыёвяшчаньні. Першае ж паседжаньне дало падставы да аптымізму. 9 сакавіка 2011-га судзьдзя Вышэйшага гаспадарчага суду Валеры Шобік прызнаў несапраўдным папярэджаньне аб спыненьні вяшчаньня радыёстанцыі. То бок паставіў пад сумнеў загад Праляскоўскага, фактычна дазволіўшы калектыву аднавіць працу.

Аднак літаральна на другі дзень пасьля гэтага Праляскоўскі заявіў, што яму прысуд не падабаецца, і ўжо 17 сакавіка касацыйная калегія таго ж суду кардынальна зьмяніла пазыцыю, адмяніўшы ранейшы вырак. Справа пайшла на паўторны разгляд, быў прызначаны новы судзьдзя з «правільнай дзяржаўнай пазыцыяй».

Наступныя паседжаньні нічога суцяшальнага не прынесьлі — 10 траўня скарга аб прызнаньні рашэньня спыніць вяшчаньне несапраўдным была канчаткова адхіленая. Пазьнейшыя спробы легалізавацца праз ведамствы, якія, па сутнасьці, і былі ініцыятарамі ліквідацыі, ня мелі ніякіх шанцаў на посьпех.

«У Міністэрства інфармацыі зьвяртацца было бессэнсоўна, — казаў Юры Базан у інтэрвію Свабодзе. — Ну да каго там грукацца? Да Праляскоўскага, якога ўрэшце самога выкінулі? Ці да цяперашняй гаспадыні? Яны ўсе ў адной абойме, павязаныя аднымі ланцугамі. Міністэрства сувязі таксама нічога не вырашае, ня мае ні кроплі самастойнасьці. Усе — звычайныя марыянэткі. Калі нас зачынялі, прыехалі два супрацоўнікі інспэкцыі электрасувязі: позірк у падлогу, маўляў, прабач, мы тут ні пры чым. Адбываецца злачынства, а ніхто не вінаваты... Няма грамадзтва, чалавека з уласнай пазыцыяй. Можа, і набярэцца тысяч дзесяць, якія нечага вартыя, але ж гэта долі працэнта...»

Ліквідацыю радыёстанцыі Юры Базан называў палітычнай замовай: праграмы кандыдатаў у прэзыдэнты, уключна з Саньнікавым і Някляевым, разьмяшчалі ня толькі незалежныя, але і дзяржаўныя СМІ. І пры роўным падыходзе караць трэба было ня толькі «Аўтарадыё», а і шэраг афіцыйных выданьняў, якія надрукавалі «экстрэмісцкія заклікі». Аднак дзяржаўныя мэдыі і грошы з кандыдатаў узялі, і настрой Праляскоўскаму не сапсавалі.

«Наш калектыў рэальна аказаўся адзіным, хто пацярпеў у палітычнай кампаніі 2010 году, — згадваў сёлета Юры Базан. — Больш жа нікога не зачынілі? Тое, што некаторыя незалежныя СМІ палохалі, дык гэтым усё і скончылася, урэшце пакінулі ў спакоі. А нас зьнішчылі, прычым брудна, на закон увогуле наплявалі. Бо згодна з законам спачатку трэба было падаць у суд матываваны пазоў на закрыцьцё. Але ніякага пазову не было, проста прыйшлі і загадалі «вырубіць тумблер».

Паводле прыкідак Юрыя Базана, на момант ліквідацыі рынкавы кошт «Аўтарадыё» зь перадатчыкамі і складам аўдыторыі, на якую арыентуюцца рэклямадаўцы, вагаўся ў межах паўмільёна даляраў:

«Дык не, узялі растапталі, зьнішчылі, закапалі, разагналі. Добра хоць не забілі...» — казаў падчас апошняй размовы Юры Базан, цудоўна разумеючы, што забіваюць ня толькі стрэлам у галаву.

***

*Цяпер на частаце «Аўтарадыё» працуе дзяржаўная станцыя «Сталіца».*

**Радыё Свабода**

## АБ'ЯВА

***• Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Крывінка» паведаміце рэдакцыі аб гэтым. Калі не жадаеце атрымліваць газету, то патэлефануйце.***

***• Калі прачыталі "Крывінку", то калі ласка, перадайце знаёмым.***

***• Наша газета стала размяшчаецца на партале http://kamunikat.org, дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць са старонкі: http://kamnikat.org/kryvinka.html каталагу "Пэрыёдыка" для далейшага выкарыстання яшчэ да з'яўлення газеты на паперы.***

ФІНАНСЫ

# «КАЗАЛОСЬ, БАТЬКА ВЗЯЛ БОГА ЗА БОРОДУ»

**Друзья, сколько стоит Беларусь? Понятное дело, речь не идёт о стране и людях, а о коммерческих активах, всему тому, что является капиталом для производства товаров и услуг.**

Белорусские власти не афишируют вопрос о том, сколько стоят ресурсы и активы Беларуси, а если приводят цифры, то рассчитывают их с помощью такой методики, что пятилетний компьютер в два — три раза дороже нового, станок 20-летней давности оценивается, как новый робот, а здания 40-летней давности в финансовых балансах идут по цене $ 1500 — 2000 за кв. метр. Абсурд? Конечно, но именно таким абсурдом белорусские власти прикрывают свою профессиональную некомпетентность, бесхозяйственность и коррупционность.

На начало 2001г. стоимость основных средств, включая незавершённое строительство и оборотный капитал (без земли, лесов, озер и рек), составила в народной валюте Беларуси $ 79,1 млрд., а активы и богатство домашних хозяйств — $ 1,53 млрд.

На начало 2006г. они составили $ 128,25 млрд.. Получается, что с 2001 по 2005гг. коммерческие активы страны увеличились, по оценке правительства, на 62,1%, а домашних хозяйств — в 7,2 раза.

На начало 2011г. стоимость основных средств и оборотки составила 0,23 трлн. и 17 млрд. За период 2006-2010гг. коммерческие активы подорожали на 64%, а домашних хозяйств — в 2,9 раз.

Если же взять период 2001 — 2010гг., то рост стоимости активов впечатляет: в 2,66 раз для коммерческих организаций и в 21 (!) раз для домашних хозяйств. Это просто феноменальный рост.

Глядя на эти цифры, ясно вырисовывается логика Лукашенко. Первую пятилетку, до конца 1990-ых, можно описать, как вхождение в ситуацию, антикризисное управление и формирование команды. Следующие десять лет, как ему говорят статисты и числоводы, страна росла феноменально. Наступило головокружение от успехов. Казалось, Батька взял Бога за бороду. Окружение старательно, тщательно зализало все сомнения и точки напряжения в системе.

Перелом, который является следствием накопившихся ошибок предыдущих периодов, случился в 2011-2015гг. На начало 2016г. коммерческие организации и власти обладали капиталом в $ 158,88 млрд., семьи — $ 23,5 млрд. На начало 2016г. по сравнению с началом 2011г. капитал Беларуси подешевел на $ 51,35 млрд. или на 24,4%. Капитал домашних хозяйств «просел» на 27%.

Беларусь пятится назад со скоростью более 5 лет в пятилетку. Т. е. если кардинально не изменить экономический курс, модель развития, то к 2020 году по уровню капитала у коммерческих организаций и бизнеса мы окажется в начале 2000-х.

А теперь самое неприятное для белорусского правительства и официальных счетоводов. Оценка стоимости капитала в Br2950,3 трлн. для коммерческого сектора и Br436,1 трлн. для домашних хозяйств — это результат использования существующих методик оценки стоимости активов. Эта оценка не имеет ничего общего с рыночной, т. е. с той ценой, за которую здания, сооружения, станки, машины и прочее оборудование можно продать. Она построена на архаичном способе оценки, основанном на балансовой стоимости.

Как учит опыт десятков стран мира, а также сотни случаев банкротства в Беларуси, активы в условиях кризиса, при попытке продать их, резко дешевеют по сравнению с балансовой стоимостью и оценками правительства. То, что на бумаге стоит под $ 160 млрд. рынок, т. е. реальные покупатели с «живыми» деньгами готовы будут купить только за ~$ 30 — 40 млрд. И то, с землёй и инфраструктурой, которая на ней находится. Кому нужны станки, машины и оборудование, на котором нельзя выпускать современные товары? Кому нужны здания и сооружения, которые дико энергонеэффективны?

Чем быстрее Лукашенко осознает опасную иллюзию богатства Беларуси, тем больше шансов, что под давлением общественного мнения (коммерческого и гражданского секторов) власти прекратят затянувшийся жестокий эксперимент на живом народе.

Хороший хозяин с 2001 по 2016гг. увеличил бы стоимость производственных активов страны. Плохой хозяин сделал всё наоборот. Это как раз случай Беларуси. В 2016 году Беларусь стоит дешевле, чем в 2001г.

Официальные оценки пускают пыль в глаза. Смотря на них, власти думают: «Раз активы белорусских семей оцениваются на $ 23,5 млрд., то в условиях кризиса можно обложить их дополнительными налогами. Пусть поделятся со страной». Чиновники умалчивают, что на такую большую сумму они оценивают б/у автомобили, 5-летние холодильники и телевизоры, а также квартиры по стоимости $ 1300 за 1м2. Поди продай за эти деньги — и ты услышишь диагноз своей экономической грамотности от потенциальных покупателей.

Хватит самообмана. Хватит продавать иллюзии благополучия. Хватит валить всё на мировой кризис, козни Запада/Кремля. Хватит невежественных «сам дурак». Страну спасать надо. Если продолжать жить в пропагандистской утопии, то, когда огромный пузырь белорусского богатства сдуется, в стране останутся, в основном, пенсионеры, бюрократы, силовики и работники государственных монополий.

Не надо быть пророком, чтобы узнать, кто первым пойдёт в расход.

**Ярослав Романчук**
**Facebook**

НАША ЎЛАДА

# ИМИТАЦИЯ БЛИЗОСТИ

**В последнее время, когда я слушаю выступления Лукашенко, меня не покидает странное чувство. Особенно, когда руководитель страны начинает рассуждать о жизни народа.**

Вот он рассказывает про наши кошельки, корректирует наше меню и учит, как работать, а у меня в голове крутится неумолимый вопрос: а ему-то откуда известно про нашу жизнь? Как может человек, отгородившийся от всех высоким забором своих резиденций, охраняемых от любого проникновения извне, вдруг рассуждать про цены в магазинах? Ведь он-то ценники наверняка видит не чаще, чем раз в пять лет в буфете на избирательном участке, да и то, судя по фото, они очень сильно отличаются от того, что обычные люди привыкли наблюдать в магазинах…

Или что, например, он может знать о том, как живут люди на селе и какую зарплату там получают доярки? Это на первых сроках правления бывший директор совхоза «Городец» имел об этом вполне себе адекватное представление. А что он может понять сейчас, приземляясь на специально расчищенное для него поле в центре показательного колхоза и общаясь с тщательно отобранными для него представителями «из народа», полностью довольными своей жизнью — ну, или способными имитировать это удовольствие?

А его слова о нашем рационе и рекомендации по питанию? Рассказывая о драниках, которым он учил готовить своего повара (!) «чтоб не как у собаки язык», или про то, что «только в хоккейный день, перед хоккеем» может «конфету съесть», он наверняка уверен, что тем самым выглядит этаким народным президентом, своим парнем. И ему даже невдомек, насколько далеко он в этот момент от того самого народа.

Мне вот, правда, интересно, откуда президент черпает информацию о жизни, чтобы потом учить других? Ему что, помощники на ночь показывают специальные видеосюжеты про народ? Или он, как халиф из восточной сказки, переодевшись в простые одежды, по вечерам разгуливает по стране, чтобы узнать, чем живут и о чем судачат его подданные? Ну, со вторым — едва ли. Судя по заборам и охране, которой окружил себя «оглушительно избранный и всенародно любимый» президент, он вряд ли осмелится на такие похождения.

Поэтому и получается, что доярки гомерически смеются, слушая про их небывалые зарплаты, а народ реально раздевается на работе — в ином смысле он-то уже давно раздет и утружен. Поэтому и рассказы про мечту и кошелек, вызывают горькую ухмылку, а рекомендации есть чаще овощи и рыбу больше похожи на анекдот про Ленина, который голодным крестьянам, жалующимся, что кроме соломы есть больше нечего и они скоро мычать начнут, заявляет, что сам только вот «съел медку и не жужжу».

Нет, я сейчас как раз не про то, что президент должен спуститься из своего кабинета и отправиться в магазин за кефиром, или уволить прислугу и самому начищать полы своих резиденций и готовить по вечерам ужин на всю семью. Я про то, чтобы перестать имитировать близость к народу, а заняться конкретными вещами, которыми должен заниматься президент.

А проблем накопилось столько, что белорусам давно уже хотелось бы услышать какой-нибудь рецепт спасения экономики, а не рецепт собственного вечернего меню.

**Светлана Метёлкина**
**gazetaby.com**

ІХНІЯ ЗАБАВЫ

# ЦАНА «ПРЭЗІДЭНЦКІХ ПАКАТУШАК»

**Закон у нас адзін для ўсіх, а значыць, трэба плаціць. Калі МУС нават з жадаючых правесці пікет супраць беднасці грошы здзірае, то вельмі цікава, які кашатарыс беларуская міліцыя выставіла вершнікам на матацыклах?**

Выбегла ўчора ў краму, і на выхадзе з двара бачу, як хлопец цуды маніпуляцыі са сродкамі сувязі дэманструе — у адной руцэ рацыю трымае, а другой на мабільным тэлефоне нешта набіраць спрабуе. Прайшла пару метраў па праспекце — яшчэ двое з рацыямі. На выхадзе з крамы — яшчэ двое.

Агледзелася я па баках — ды проста Джэймсы Бонды на выпасе, і па адзін бок праспекта Незалежнасці, і па іншы; дзе купкай стаяць, дзе па адным — з выглядам чалавека, які раптам забыўся, куды ішоў.

— А што гэта тут у нас адбываецца? — пытаюся.

Высветлілася — пакатушкі. Аляксандр Рыгоравіч з сямейнікамі мелі ласку стаць байкерамі. І ездзілі па Менску туды-сюды ў складзе трохтысячнай калоны матацыклістаў. Усюды ахова, усюды Джэймсы Бонды, ўсюды рацыі нешта тонам загада выкрумкваюць — то бок, і начальства пры працы.

І тут прыпомніла я, што ў нашай краіне ёсць закон, згодна з якім праца міліцыі, медыкаў, МНС, прыбіральшчыкаў на масавых акцыях недзяржаўнага значэння павінна аплачваць арганізатарамі. А фестываль байкераў — гэта ж не парад у гонар Дня незалежнасці, не «Славянскі базар» і нават не «Дажынкі». Іншымі словамі, закон — акурат пра іх.

Падняла я свае старыя запісы, і нават расцэнкі на такія мерапрыемствы знайшла. Вось, напрыклад, калі арганізатары хочуць правесці пікет з удзелам 10 чалавек, то трэба аплаціць працу пяці супрацоўнікаў міліцыі. «Пагадзінныя расцэнкі» на міліцыянтаў атрымлівалі актывісты ва ўсіх рэгіёнах Беларусі, тарыфы не сакрэтныя, яны стандартныя. Праца афіцэра міліцыі каштуе дзесьці $ 4 ў гадзіну, праца шарагоўца з ДПС — 3. Але гэта калі яны проста на месцы стаяць, за пікетам прыглядаюць ды начальству косткі абмываюць. Гэта без выездаў-раз'ездаў, выдаткаў на бензін і амартызацыю.

Лічым: тры тысячы байкераў — гэта 1,5 тысячы задзейнічаных супрацоўнікаў міліцыі. І нават калі палова з іх былі «высокааплатнымі», а другая — «натроечку», то гэта $ 3000 плюс 2250. Разам: $ 5250 за адну гадзіну. Згодна з праграмай байкерскага фестывалю, у 11.00 яны збіраліся на Кургане славы, у 14.00 — ля Палаца спорту, гэта значыць з 10 раніцы да 15.00 мінімум міліцыя была задзейнічаная «магутнымі сіламі».

Памнажаем. І атрымліваецца, што аплата толькі міліцыі за эфектны праезд «байкера нумар адзін» па Менску на чале калоны матацыклістаў павінна скласці больш за $ 26 тыс.

А яшчэ ж было паказальнае выступленне перад байкерамі супрацоўнікаў ДАІ... А яшчэ дзеля байкераў былі перакрытыя цэнтральныя праспекты Менску — вы ўяўляеце, колькі б каштавала, напрыклад, кіношнікам перакрыць праспекты еўрапейскай сталіцы? А яшчэ мы не палічылі аплату працы медыкаў, пажарнікаў, камунальных службаў...

Так што фестывалі, матацыклы, сямейныя хобі, — гэта ўсё вельмі добра. Алебайкерскі фестываль гэта не дзяржаўнае мерапрыемства.

Закон у нас адзін для ўсіх, а значыць, трэба плаціць. Калі МУС нават з жадаючых правесці пікет супраць беднасці грошы здзірае, то вельмі цікава, які кашатарыс беларуская міліцыя выставіла вершнікам на матацыклах?

Вось літаральна ў бліжэйшыя дні хачу пачуць ад міністра МУС Ігара Шуневіча, які дзіцячы дом ашчасціць яго ведамства буйным грашовым пераводам мінімум на паўсотні тысяч даляраў. А калі грошай няма або сума сімвалічная, то гэта ... крымінальная справа. Супраць міністра ці супраць начальніка сталічнай міліцыі — гэта ўжо няхай КДБ разбіраецца. А калі яны не змогуць — то проста абавязаны ўмяшацца наш галоўны змагар з карупцыяй.

Бянтэжыць толькі, што менавіта ён і ехаў на чале калоны...

**Святлана Калінкіна**
**belsat.eu**

ЭКАНОМІКА

# КОЛЬКІ ГРОШАЙ ЗАБІРАЕ ДЗЯРЖАВА Ў БЕЛАРУСАЎ

**Чаму ўлады хаваюць ад падаткаплацельшчыкаў як папаўняецца казна? У дзяржавы, як і ў кожнага з нас, ёсць свой гаманец — дзяржбюджэт. У яго дзяржава кладзе сваю «зарплату», якую яму плацяць самі грамадзяне ў выглядзе разнастайных падаткаў, штрафаў, пошлін і іншых плацяжоў.**

**І вядомы ПДВ**

Упершым паўгоддзі 2016 года даходы кансалідаванага беларускага бюджэту склалі 13,46 млрд дэнамінаваных рублёў. Гэта прыкладна 1400 рублёў з разліку на кожнага жыхара краіны, ці амаль 3000 рублёў на кожнага занятага ў нашай эканоміцы. І гэта, між іншым, трэціна ВУП краіны.

83,2% гэтай сумы сфарміравана за кошт падаткаў. Калі вы думаеце, што гэта ў асноўным падаткі, якія плацяць буйныя прадпрыемствы, то вы глыбока памыляецеся. Доля падатку на прыбытак у агульным аб'ёме падатковых даходаў кансалідаванага бюджэту склала ўсяго 6%. А вось доля падаходнага падатку, які ўтрымліваецца з заробкаў звычайных грамадзян, дасягнула 17%. Гэта другі па значнасці падатак для бюджэту. Важней толькі падатак на даданую вартасць, доля якога ў ВУП Беларусі складае аж 36%.

А як вы думаеце, хто плаціць у бюджэт праславуты падатак на даданую вартасць, стаўка якога ў Беларусі цяпер складае 20%? Ды вы і плаціце кожны раз, калі хадзіце у краму. ПДВ — гэта ўскосны падатак, што закладваецца ў кошт тавару. Пакупнік плаціць ПДВ прадаўцу, а той, у сваю чаргу, пералічвае яго ў бюджэт.

Некаторыя тавары вызваляюцца ад выплаты ПДВ, але гэта хутчэй выключэнне, чым правіла. Атрымліваецца, калі вы купілі прадуктаў на 120 рублёў, 20 рублёў — гэта не самі пакупкі, а падатак на даданую вартасць.

**Немагчыма разабрацца хто, колькі і за што заплаціў**

Але і гэта яшчэ не ўсё. Купляючы імпартны тавар, вы плаціце імпартную пошліну. А калі вы купляеце цыгарэты, алкаголь або аўтамабільнае паліва, то заплаціце акцыз. Напрыклад, у цане кожнага літра піва закладзены акцыз у памеры 35 капеек, а ў кожным пачку цыгарэт — ад 30 да 78 капеек у залежнасці ад маркі і сезону, у літры бензіну класа Еўра-5 — 23 капейкі. Па дробязях і набягае салідная сума — у першым паўгоддзі 2016 года дзяржава сабрала акцызаў на 970 млн дэнамінаваных рублёў.

Дарэчы, любое прадпрыемства выдатна ведае, што атрымаўшы прыбытак, прыйдзецца заплаціць з яго падатак. Гэтыя выдаткі першапачаткова закладваюцца ў цэны і кладуцца на плечы спажыўцоў.

Атрымліваецца, як з перакрыжаваным субсідаваннем ЖКГ: быццам бы тарыфы з'яўляюцца падвышанымі толькі для юрыдычных асоб, але фактычна тыя закладваюць гэтыя выдаткі ў кошт сваіх тавараў і паслуг, і асноўным плацельшчыкам усё роўна выступае шараговы грамадзянін. У дадатак да ўсяго яшчэ і схема сама па сабе складаная і заблытаная, і ў выніку наогул немагчыма разабрацца, хто, колькі і за што заплаціў.

Падлічыць дакладна, колькі падаткаў плоціць беларус, немагчыма. Усё індывідуальна і залежыць не толькі ад падатковых вылікаў, але і ад таго, што ён есць, п'е і дзе ўсё гэта купляе. Але давайце ўсё ж паспрабуем зрабіць прыкладны разлік для сям'і з двух чалавек з «чыстым» сукупным заробкам у 1500 рублёў. Выкажам здагадку, што гэтая сям'я за месяц выкурвае 30 пачкаў цыгарэт, выпівае 10 літраў піва, купляе 100 літраў бензіну Еўра-5 і 1200 рублёў траціць на тавары і паслугі, якія ўключаюць у сябе ПДВ.

Па самых сціплых падліках атрымліваецца амаль 500 рублёў падаткаў (224 падаходны, 200 ПДВ, 50 акцызы).

І гэта далёка не ўсё, а толькі тое, што можна больш-менш праўдападобна палічыць. І калі вы думаеце, што за кошт гэтых падаткаў дзяржава потым будзе плаціць вам пенсію, то вы памыляецеся. Адлічэнні ў Фонд сацыяльнай абароны насельніцтва — гэта асобная гісторыя, і нашай сям'і з прыбыткам у 1500 рублёў «чыстымі» ФСАН абыходзіцца яшчэ прыкладна ў 600 рублёў. Іх плоціць працадаўца.

Гэта азначае, што сям'я з прыбыткам у 1500 рублёў на самай справе зарабляе больш 2300 рублёў. Проста значную частку дзяржава ў адкрытую забірае адразу, а астатняе — непрыкметна, патрошкі, але бессаромна….

*(скарочана)*

**"Заўтра тваёй страны"**




ПАМЯЦЬ

# ШЫМОН ПЕРЭС: ТРЭБА МАРЫЦЬ ПРА БОЛЬШАЕ

**У мінулым годзе, як выяўляецца — за год да смерці, 92-гадовы Шымон Перэс, дзявяты прэзідэнт Ізраіля і ўраджэнец беларускага Вішнева, прыехаў у Кіеў. Перэс прыляцеў, каб гаварыць пра ляноту, смеласць і дзёрзкасць надзеі.**

«Мы марылі аб сваёй зямлі, але зямля, якую мы атрымалі, не была марай. Гэта быў маленькі кавалачак, адна тысячная частка Блізкага Усходу. Гэтая зямля не вельмі добра да нас паставілася. Там былі балоты, маскіты, пустыня на поўдні, камяні. Выбіраць трэба было паміж камарамі і камянямі. На ёй было два возеры — адно мёртвае, другое перасыхаючае. Была легендарная рака — але і ў ёй вады не было. Гэта значыць вады не было ўвогуле. Ніякіх прыродных рэсурсаў таксама не было — ні золата, ні нафты. Тады казалі, што на Блізкім Усходзе ёсць два тыпы краін — краіны нафтавыя і краіны святыя. Наша была абсалютна святая, бо ў нас наогул нічога не было…

І мы падумалі: самае вялікае багацце прыроды — гэта чалавек. Людзі ўзбагацілі зямлю, а не зямля — людзей.

Мы ўсе сталі навукоўцамі. Кожны фермер у Ізраілі, кожны кібуц пачаў глядзець, як развіваць сельскую гаспадарку без вады, без зямлі. Мы пачалі развіваць яе. Гэта была першая сельская гаспадарка ў свеце, заснаваная на хай-тэку. Я сам быў тады студэнтам у сельскагаспадарчым універсітэце, мы спрабавалі праводзіць ірыгацыю — палівалі дрэвы гарачай вадой, думалі, што яны так будуць лепш расці.

Да вялікага здзіўлення, высветлілася, што сельская гаспадарка, якая заснавана не толькі на зямлі, але і на хай-тэку, працуе. У нас сёння дастаткова вады. Ваду звычайна знаходзяць — яе не здабываюць. А мы сталі яе здабываць. І мы атрымалі поспех. Мы пачалі апрасняць ваду, мы адшукалі гародніну, якая не занадта шмат «п'е», займаліся селекцыяй. Вось вам сапраўдны сакрэт: для будучага важна не тое, што вы знаходзіце, а то што вы робіце.

У нас не было ні людзей, ні ўзбраення, мы ніколі не ваявалі, у нас было ўсяго 450 тысяч насельніцтва, не было генералаў, не было ваеннага вопыту. ААН вырашыла стварыць дзяржаву Ізраіль, але фактычна ішла вайна. Што мы маглі рабіць? Дзве рэчы.

Першае — людзі павінны былі стаць мужнымі і храбрымі. Яны павінны былі зразумець, што ў нас няма выбару — мы павінны толькі перамагчы. Калі мы хоць адзін раз прайграем — усё.

Другое — паколькі ў нас не было зброі, мы пачалі яе вырабляць. Каб удасканальваць армію, нам давялося развіваць ІТ. Ізраільскі ІТ-сектар працаваў на войска. Таму што мы былі адны у варожым асяроддзі.

Навошта я вам гэта распавядаю? Да гэтага часу я кажу маладым хлопцам або дзяўчатам: сябры, у вас ёсць значна больш, чым вы думаеце. Не лянуйцеся. У вас ёсць значна больш, чым зямля вам можа прапанаваць. Вы можаце вырабляць рэчы, якія не дадзеныя вам. Гэта ўрок для ўсіх…

Нічога не падае з неба. Мы ў Ізраілі вельмі шмат працавалі. Што ў гэтым дрэннага? Не ведаю... Людзі ідуць у адпачынак — гэта пустая трата часу. Мне ўжо 90, і я ніколі не быў у адпачынку.

Мне кажуць: «Ты што, ненармальны? Як жа ты адпачываеш?» А я лепш буду працаваць. Я ад працы атрымліваю радасць.

І не будзьце песімістамі — гэта таксама пустая трата часу, асабліва калі часы мяняюцца.

Трэба ісці за навукай. У навукі няма межаў, абмежаванняў, навука не мае рэфлексіі.

Не спрабуйце вырашыць праблемы мінулага, я не ведаю, ці магчыма гэта наогул. Мінулае наогул не грае ніякай ролі. Проста вывучыце яго, каб вы не паўтаралі старых памылак. У мінулым няма ні будучыні, ні надзеі.

Большасць людзей хочуць памятаць, а не ўяўляць — гэта самая вялікая памылка. Што вы хочаце памятаць? Усе зробленыя вамі памылкі? На гісторыю нельга абапірацца. Гісторыі былі вестунамі каралёў і тых, хто быў пры ўладзе — яны казалі тое, што трэба.

Людзі баяцца чагосьці... Толькі Бог ведае, што з намі будзе.

Мяне пытаюцца часам: калі азірнуцца назад, якімі былі вашы самыя вялікія памылкі? Я адкажу: мы думалі, што ў нас вялікія мары. А цяпер мы разумеем, што яны былі не такімі ўжо вялікімі. Трэба марыць пра большае. Чым большая ваша мара, тым большага вы дамажэцеся.

Ваша маладое пакаленне — цудоўнае. Але што мяне злуе ў іх — яны пагарджаюць палітыкамі. Яны кажуць: палітыка карумпаваная, яна не для нас. Я адказваю: вы сумленныя, вы хочаце сумленнай палітыкі — ідзіце і рабіце сумленную палітыку.

Гэта ўсё ўрокі, якія я сам вынес з мінулага.

Яшчэ людзі пытаюць мяне, як заставацца актыўным. Гэта вельмі проста. Лічыце у розуме вашыя дасягненні і мары. Калі вашых мараў больш, чым дасягненняў — значыць, вы ўсё яшчэ маладыя. Калі наадварот — вы старыя".

**"Наша ніва"**

**Заснавальнік і рэдактар:** Станкевіч Георгій Мікалаевіч

**Адрас рэдакцыі:** Бешанковіцкі раён, в. Старыя Ранчыцы, e-mail: stan62@list.ru, тэл. 60237, маб. +375292184739
Газета выдаецца з сакавіка 2005г.

**Падпісана да друку 30.09.2016 у 16.10**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца на ўласным абсталяванні.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.